РОЗГАЛАС

## ЭКАЛАГІЧНАЯ КАМІСІЯ МІНГАРСАВЕТА Б'Е ТРЫВОГУ

**У выніку абследавання каля 700 дзяцей, якія жывуць у беларускай сталіцы, на ўтрыманне свінцу, ртуці і кадмію ў крыві высветлілася, што ў кожнага трэцяга дзіцяці колькасць свінцу перавышае гранічна дапушчальную канцэнтрацыю (ГДК), вызначаную Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (0,1 мг на 1 л крыві), а ў 9 працэнтаў абследаваных канцэнтрацыя такая (больш чым 0,25 мг/л), што дазваляе гаварыць аб свінцовым атручэнні. Прыкладна ў паловы абследаваных дзяцей канцэнтрацыя ртуці і кадмію аказалася вышэй за ГДК.**

Такія звесткі былі прыведзены дырэктарам Эндаэкалагічнага цэнтра Нікай Грэсь на чарговым пасяджэнні камісіі па экалогіі Мінскага гарадскога Савета, на якім прысутнічалі таксама дэпутаты, абраныя ў гарсавет новага склікання. Прыведзены ў яе дакладзе фактычны матэрыял па наяўнасці цяжкіх металаў у крыві дзяцей быў атрыманы ў выніку даследаванняў, ініцыіраваных упраўленнем аховы здароўя Мінска і камісіяй па ахове здароўя Мінгарсавета. Мяркуецца, што пагаршэнне здароўя школьнікаў і дашкольнікаў звязана непасрэдна і з павышаным утрыманнем цяжкіх металаў у някасных прадуктах харчавання, асобных відах дзіцячых цацак, а таксама ў атмасферы.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

## АРМІЯ БЕСПРАЦОЎНЫХ РАСЦЕ

**25.898 беспрацоўных было зарэгістравана па Мінскай вобласці Дзяржаўнай службай занятасці на 1 студзеня 1996 года. Толькі ў сталіцы іх налічвалася 12.944 чалавекі.**

Для параўнання: год назад гэтыя лічбы складалі 19.482 і 9.607 чалавек адпаведна.

Як паведамілі ў Галоўным упраўленні Дзяржаўнай службы занятасці Рэспублікі Беларусь, колькасць беспрацоўных у нас да канца гэтага года не зменшыцца. Хутчэй наадварот. Вызваленыя рабочыя месцы — прамая перадумова гэтага.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## НА ВЯЛЕСА СПАДЗЯВАЙСЯ, АЛЕ І САМ ЗАВІХАЙСЯ

**Летась у параўнанні з 1990 годам віцебскія мясаперапрацоўшчыкі атрымалі ад сялян утрая менш сыравіны, аднак здолелі пашырыць асартымент вырабаў з яе да 160 найменняў.**

Толькі каўбас тут могуць прапанаваць пакупніку 140 відаў. Камбінат, як тут гавораць, перапрацоўвае ўсё, акрамя бычынага рыку: з валасоў робяць пэндзлі, з адходаў — мыла, сухі корм. Ідуць у справу рогі і капыты. У выніку нават вегетарыянец можа выйсці з «Вялеса» з пакупкай — магазін рэалізуе побач з мяснымі вырабамі цудоўныя карціны, зробленыя ўмельцамі камбіната з рагоў жывёлы.

У выніку ўмелага гаспадарання на прадпрыемстве маюць сёння працу 1330 чалавек — на 130 больш, чым год назад. І за ўласныя мясныя далікатэсы ім ёсць чым разлічыцца ля прылаўкаў. Дарэчы, высветлілася, што ва ўсіх магазінах камбіната заўсёды поўна пакупнікоў, бо нацэнкі там ніжэйшыя.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## ЗЛАЧЫННЫ КВАРТЭТ

**Работнікі міліцыі Чачэрскага і Кармянскага раёнаў збіліся з ног, адшукваючы начных узломшчыкаў магазінаў у цэлым шэрагу вёсак — Роўкавічы, Новыя Малынічы, Перадавік, Сапрыкі, Адзінства, Чырвоны Бераг, Буда...**

Почырк у рабаўнікоў адзін — абясточыць сігналізацыю, націснуць ломам, узламаць замкі. Не жартачкі ж: усе пералічаныя крадзяжы ўчынены ўжо сёлета. А на след зладзеяў ніяк не натрапіць. Ды толькі правільна гавораць: колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе.

...Глухая лютаўская марозная ноч. Моцна спіць вёска Струкачоў, што на Кармяншчыне. Чацвёра рабаўнікоў (адзін мясцовы і трое з Чачэрскага раёна), на ўзбраенні якіх было паляўнічае ружжо са спіленым нумарам, смела арудуюць каля магазіна. Ды толькі яны не ведалі, што за іхнімі злачыннымі дзеяннямі ўжо сочаць кармянскія міліцыянеры. Яны і ўзялі злачынны квартэт на месцы. Дарэчы, трое з чатырох раней былі судзімымі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## У КРАІНЕ БУДЗЕ МОРА ПІВА

**У той час калі ў Беларусі амаль кожнае другое прадпрыемства або завод ліхаманіць ад узаемных неплацяжоў і пастаянных фінансавых цяжкасцей, ВА «Крыніца» збіраецца павялічыць аб'ёмы вытворчасці піва ледзь не на чвэрць.**

Аб'яднанне будзе выпускаць пераважна чатыры найменні піва: «Дражня», «Бурштын Беларусі», «Старажытнае» і «Крыніца». Найбольшым попытам карыстаецца «Старажытнае», якога толькі ў бутэлечным разліве было рэалізавана 16 працэнтаў ад агульнага аб'ёму продажу. Але ёсць у прадпрыемства і свае цяжкасці. Так, напрыклад, па безалкагольных напоях у мінулым годзе адбылося значнае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Гэта было звязана ў асноўным з адносна высокай цаной, напрыклад, айчыннай «Цэвіты» і насычэннем рынку імпартнымі напоямі, якія выгадна канкурыруюць з нашымі таварамі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ: СТАТАК СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНШЫМ

**Паводле даных упраўлення жывёлагадоўлі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, летась у калгасах і саўгасах Беларусі агульная колькасць буйной рагатай жывёлы скарацілася на 8 працэнтаў, статак свіней — на 5, коз і авечак — на 39, пагалоўе птушкі — на 20 працэнтаў.**

Як вынік, у краіне на 19 працэнтаў скарацілася вытворчасць мяса і на 14 працэнтаў — малака.

Прычыны зніжэння паказчыкаў жывёлагадоўлі відавочныя: для вытворцаў гэтая галіна сельскай гаспадаркі па-ранейшаму з'яўляецца стратнай. Да таго ж значныя цяжкасці ўяўляе апошнім часам нарыхтоўка кармоў. Так, каб набыць толькі адзін камбайн, гаспадарка павінна працаваць не менш як паўгода.

**Сяргей ГРЫБ.**

## У 80 ПРАЦЭНТАХ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ ВІНАВАТЫ ВЫТВОРЦЫ

**У выніку няшчасных выпадкаў, паводле даных Дзяржаўнай інспекцыі працы, у мінулым годзе на вытворчасці загінулі 334 чалавекі. Больш за 700 работнікаў атрымалі цяжкія траўмы, прычым 80 працэнтаў з іх сталі інвалідамі.**

Сярод пацярпеўшых 112 жанчын, 9 падлеткаў. І хоць, як сведчыць статыстыка, колькасць няшчасных выпадкаў у параўнанні з папярэднімі гадамі крыху скарацілася, гэта не дае падставы для заспакоенасці.

Працягвае заставацца высокім узровень вытворчага траўматызму ў аграпрамысловым комплексе — загінулі за год 135 работнікаў, на прамысловых прадпрыемствах — 66, будаўнічых — 56 чалавек.

Да групавых няшчасных выпадкаў звычайна прыводзяць дарожна-транспартныя здарэнні. Вялікую колькасць пацярпеўшых складаюць вытворцы з траўмамі вачэй, якія працуюць на дрэваапрацоўчым абсталяванні. Па-ранейшаму асаблівую трывогу выклікае тая акалічнасць, што больш за 37 працэнтаў загінуўшых і 9 працэнтаў траўміраваных былі ў стане алкагольнага ап'янення. Адным словам, як сцвярджаюць спецыялісты, 80 працэнтаў няшчасных выпадкаў здараюцца па прычынах, якія залежаць ад саміх вытворцаў, і толькі 20 працэнтаў з-за недасканаласці тэхнікі, тэхналогій і гэтак далей.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ХТО МАЕ РАЦЫЮ, або Як статутны фонд СІФа «раздуць» не ўдалося

**В. а. Генеральнага пракурора РБ апратэставаў рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда (ВГС) па іску ААТ «Спецыялізаваны інвестыцыйны фонд «Сігатронікс-інвест», які акумуліруе ІПЧ «Маёмасць», да Дзяржаўнай інспекцыі РБ па каштоўных паперах (ДІКП) аб прызнанні несапраўднай адмовы ў рэгістрацыі каштоўных папер.**

Гаворачы агульначалавечай мовай, атрымліваецца так: інспекцыя адмовіла ААТ у рэгістрацыі, суд дазволіў, а выконваючы абавязкі Генпракурора рэспублікі паставіў рашэнне суда пад сумненне.

А ўсё гэта пачалося яшчэ ў сакавіку 1995 года. Тады Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў несапраўднай адмову Дзяржаўнай інспекцыі РБ па каштоўных паперах у рэгістрацыі дадатковага выпуску акцый, мяркуемых да адкрытага продажу СІФам «Сігатронікс-інвест».

Рашэнне суда грунтавалася на Законе РБ «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах», у якім не прадугледжана прадастаўленне ДІКП даных аб папярэдняй падпісцы на дадаткова выпускаемыя акцыі. У іншых нарматыўных актах таксама не прадугледжваецца правядзенне АТ папярэдняй падпіскі на выпускаемыя ім акцыі. На падставе п. 2 арт. 4 Закона РБ «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах» у рашэнні аб выпуску акцый павінны ўказвацца тэрмін і парадак падпіскі на акцыі, а не правядзенне папярэдняй падпіскі на іх. Аднак пры праверцы ў парадку нагляду раней прынятага судовага рашэння старшыня ВГС В. Бойка высветліў, што суд фармальна падышоў да вырашэння гэтай спрэчкі, а менавіта: не ўстанавіў, ці меліся ў інспекцыі падставы для адмовы ў рэгістрацыі дадаткова выпускаемых акцый СІФа «Сігатронікс-інвест».

Так, згодна з арт. 2 вышэйпамянёнага закона ўсе выпускаемыя акцыі павінны забяспечвацца маёмасцю эмітэнта.

**Сяргей КУРКАЧ.**

ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ

*Аляксандр АБРАМОВІЧ:*

# «ПАЖАДАНА, КАБ ПРАВАВОЕ ПОЛЕ БЫЛО АДНАРОДНЫМ»

***Відаць, няма вялікай патрэбы прадстаўляць вядомага беларускага юрыста, былога старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі, прафесара Аляксандра Міхайлавіча Абрамовіча. Нядаўна ён стаў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, у якой ён будзе курыраваць дзяржаўна-прававыя аддзелы і займацца юрыдычнымі праблемамі. Першы тыдзень на новым месцы А. М. Абрамовіч, што называецца, уваходзіў у кола сваіх новых абавязкаў. Гэтаму і было прысвечана першае пытанне карэспандэнта «Звязды» да А. М. Абрамовіча.***



**— Аляксандр Міхайлавіч, якімі вы бачыце свае функцыі ў Адміністрацыі Прэзідэнта?**

— Як я мяркую, мне давядзецца весці пытанні, звязаныя з забеспячэннем прававога рэгулявання адносінаў на ўзроўні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама ўзгадненне гэтых праблем з іншымі органамі з тым, каб праводзілася адзіная палітыка ў галіне прававога рэгулявання адносінаў у рэспубліцы ў цэлым. Вядома, што гэтае рэгуляванне ажыццяўляецца пэўнымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання, кіраўніком дзяржавы, і важна, каб яно вялося на аснове цэласнага, сістэмнага падыходу. Адсюль узнікае шмат пытанняў, звязаных з узгадненнем праводзімай прававой палітыкі. Таму другой важнай маёй функцыяй з'яўляецца забеспячэнне патрэбнага ўзаемадзеяння Прэзідэнта з Вярхоўным Саветам, Канстытуцыйным судом, некаторымі іншымі дзяржаўнымі органамі. Аднак, улічваючы, што цяпер адпаведны апарат у Адміністрацыі фарміруецца згодна з новымі падыходамі, таму давядзецца займацца і многімі іншымі пытаннямі.

**— Чаго ад вас чакаюць Прэзідэнт і кіраўнік Адміністрацыі?**

— Не ведаю, але думаю яны хочуць ад мяне як і ад усіх іншых, эфектыўнай належнай працы. Ясна, што і Прэзідэнт, і кіраўнік ягонай Адміністрацыі вызначаюць адпаведныя задачы, таму, відаць, мае функцыі будуць у коле тых задач, якія яны вырашаюць.

**— Вы гаварылі аб фарміраванні цяпер новага апарату, які, відаць, у значнай частцы будзе вам падначалены. Якія канкрэтна гэта будуць упраўленні і аддзелы Адміністрацыі?**

— Па-першае, Галоўнае ўпраўленне прававога забеспячэння на чале з А. У. Марыскіным, дзе ёсць некалькі аддзелаў. Другое — Галоўнае ўпраўленне па ўзаемаадносінах з Вярхоўным Саветам і іншымі дзяржаўнымі органамі. Начальніка гэтага ўпраўлення пакуль няма, але ён будзе адначасова і прадстаўніком Прэзідэнта ў Вярхоўным Савеце. Намеснік начальніка гэтага ўпраўлення, як плануецца, будзе галоўным чынам займацца ўзаемаадносінамі з Канстытуцыйным судом. На гэтую пасаду чалавек ужо знойдзены, ён, дарэчы, доктар юрыдычных навук. Акрамя таго, ёсць самастойныя аддзелы па памілаванню і грамадзянству. У цэлым штаты сфарміраваны, цяпер проста ідзе пераразмеркаванне абавязкаў.

**— Аляксандр Міхайлавіч, напэўна, вы шмат начэй не спалі перад прыняццем прапановы заняць гэтую пасаду, разумеючы, што ў нас не ўсё гладка ў прававой сферы...**

— Хай застанецца гэта пры мне, як доўга я раздумваў над гэтай прапановай ці можа, не раздумваў, як кажуць, гэта асабістая справа... Ёсць, зразумела, шэраг момантаў, якія гавораць аб тым, што не ўсё ў нас гладка ў адпаведнай сферы: нестыкоўкі нарматыўных актаў, не ўсё належным чынам вырашаецца на розных узроўнях і галінах улады ў прававым рэгуляванні, многія нормы хутка старэюць, не паспеўшы нарадзіцца, у тым ліку і законы... З другога боку, жыццё вельмі складанае, патрабуецца аператыўнае рэагаванне, асабліва для змянення эканамічнай сітуацыі. Таму тут патрэбна не столькі прымаць новыя законы, колькі ўдасканальваць ужо дзеючае заканадаўства, прымаць адпаведныя акты на ўзроўні Прэзідэнта з тым, каб палепшыць гэтую сітуацыю. У гэтым выпадку і ўказы, і законы выступаюць як сродак сацыяльнага кіравання. Аднак натуральна, што толькі прыняць пэўныя акты мала, трэба іх не толькі прытрымлівацца, але і весці актыўную работу па арганізацыі выканання законаў і указаў... Нельга лічыць, што прыняцце нарматыўных актаў — гэта справа толькі Вярхоўнага Савета. У гэтай сферы ў межах сваіх паўнамоцтваў, акрэсленых Канстытуцыяй, удзельнічае і Прэзідэнт, і Кабінет Міністраў, міністэрствы, ведамствы. Усё гэта і стварае тое прававое поле, у рамках якога мы і павінны дзейнічаць. І пажадана, каб гэтае поле было, як гаворыцца аднародным...

**— Аляксандр Міхайлавіч, вы валодаеце аўтарытэтам і ў Вярхоўным Савеце, і ў Прэзідэнта, і ў Канстытуцыйным судзе. Як вы мяркуеце, ці будзеце вы здольны зрабіць гэтае прававое поле, што ўтвараецца трыма галінамі ўлады, калі ўжо не зусім аднародным, дык без сур'ёзных канфліктаў?**

— Ведаеце, існаванне супярэчнасцей — з'ява аб'ектыўная. Тры галіны ўлады складаюць пэўнае адзінства — гэта ўсё дзяржаўная ўлада, але кожная з іх адносна самастойная і можа часам выходзіць за рамкі агульнай сістэмы... Але, тым не менш, я лічу, што пужацца гэтага не варта, проста трэба ўзнікшыя супярэчнасці своечасова вырашаць цывілізаванымі сродкамі, знаходзіць шляхі ўзаемнага задавальнення, прытрымлівацца меры... Я мяркую, што найлепшы спосаб вырашэння магчымых канфліктаў паміж галінамі ўлады — гэта ўзаемнае ўзгадненне, прычым асабліва на стадыі прыняцця пэўных рашэнняў і іх рэалізацыі. Аднак усе павінны разумець, што цяпер істотна змянілася ўся сістэма ўлады, існуе кіраўнік дзяржавы, які выбраны шляхам прамога ўсенароднага галасавання. Да яго адышлі паўнамоцтвы не толькі ранейшай выканаўчай улады, але і тыя, што, калі казаць умоўна, належалі раней так званаму калектыўнаму кіраўніку — главе — дзяржавы — Прэзідыуму Вярхоўнага Савета... Але, зноў жа, заканадаўства ў шырокім сэнсе — гэта толькі сродак вырашэння задач. Не менш важнае значэнне маюць выпрацоўка і вызначэнне правільнага, стратэгічна аптымальнага эканамічнага курсу, належнай сацыяльнай палітыкі, правільнай лініі ў развіцці палітычных працэсаў. Закон — гэта толькі форма, якая ўводзіць гэтыя працэсы ў патрэбнае рэчышча, яно садзейнічае ім, але не прадвызначае. Таму нельга і перабольшваць значэнне прававога рэгулявання грамадскіх адносін для развіцця пэўнага грамадства.

**— Ці не здаецца вам, што, выбіраючы лінію эканамічнага і сацыяльнага курсу, мы ў нашай краіне часта проста непрадумана вяртаемся да рычагоў адміністрацыйна-каманднай сістэмы, дысцыпліны, пераходных сцягоў, іншых старых атрыбутаў і схем?**

— Канешне, не ўсё старое дрэннае. Жыццё гэта паказвае. Важна, напрыклад, і матэрыяльнае, і маральнае заахвочванне добрай працы, як тыя ж пераходныя сцягі. Зусім ясна, аднак, што мы павінны адназначна ісці ў бок фарміравання рынкавай эканомікі ў сферы вытворчасці. Што датычыць размеркавальнай палітыкі, то відавочна, што тут трэба многае браць ад сацыялістычных падыходаў, тут гэта апраўдана, асабліва ў галіне абароненасці чалавека. Рынкавая эканоміка сама ўсё не ўрэгулюе, у любым грамадстве дзяржава павінна спалучаць эканамічныя і адміністрацыйныя метады кіравання. Пытанне ў меры іх суадносінаў. Рэгуляванне дзяржавай эканомікі павінна быць, але пераважна эканамічным уздзеяннем: крэдытнай палітыкай, падаткамі, стварэннем ільгот. І гэта таксама павінна быць адназначна вызначана ў заканадаўстве... Сёння ж мы пакуль не маем рынкавай эканомікі, ідуць працэсы эканамічных пераўтварэнняў, якія патрабуюць аператыўнага ўмяшання, таму лічу, што значны аб'ём нарматыўнага рэгулявання ў галіне эканомікі павінен ажыццяўляцца на ўзроўні выканаўчай улады. Заканадаўчай уладзе, на мой погляд, трэба галоўным чынам ажыццяўляць устанаўленне базавых прынцыпаў фарміравання рынкавай эканомікі, яе асноў. Гэта прынцыповы момант, у адваротным выпадку непазбежны непрыемныя калізіі, у тым ліку з патрэбнасцямі рэальнай практыкі гаспадарання... Што датычыць становішча спраў у галіне правоў чалавека, развіцця палітычных працэсаў, сацыяльнага развіцця — тут, як мне здаецца, уклад заканадаўчай улады мог бы быць і больш значным, а выканаўчая ўлада тут магла б сканцэнтравацца на рэалізацыі, прымяненні прынятых законаў, хаця толькі выкананнем законаў і тут усіх праблем не вырашыш. Сацыяльнае кіраванне, як вядома, ажыццяўляецца не толькі прававымі, але і так званымі арганізацыйнымі і іншымі метадамі.

**— Аляксандр Міхайлавіч, вяртаючыся да праблемы падзелу уладаў, як, на ваш погляд, можна дабіцца, каб магчымыя разнагалоссі не адбіліся на простых грамадзянах, каб бабулькі, якія едуць у тралейбусе, і кантралёры, напрыклад, не ваганіся, што выконваць: указ Прэзідэнта ці рашэнне Канстытуцыйнага суда?**

— Тут трэба шукаць разумнае, і, думаю, спакойнае рашэнне. І я як юрыст лічу, што Канстытуцыйны суд па шэрагу пазіцый мог бы прымаць больш аптымальныя рашэнні. Я далёкі ад таго, каб згушчаць фарбы, але лічу, што ўсім трэба вучыцца, і Канстытуцыйнаму суду — не менш. Улічваючы важнасць прымаемых ім рашэнняў, трэба значыць, што ў многіх выпадках яны павінны быць намнога больш абгрунтаванымі.

**— Ці не далучаецеся вы тым самым да тых, хто ўвогуле гаворыць аб немэтазгоднасці Канстытуцыйнага суда як такога?**

— Як працэс нагляду, кантролю за адпаведнасцю законаў і іншых нарматыўных актаў Канстытуцыі, такі інстытут безумоўна патрэбны, тут і гаварыць няма аб чым. Але на практыцы ёсць розныя формы забеспячэння канстытуцыйнага кантролю, прычым не толькі пасля прыняцця пэўных актаў, але і папярэдняга, ёсць і розныя структуры... Але калі мы стварылі і маем Канстытуцыйны суд, дык трэба пакуль што зыходзіць з гэтага. Пытанне гэтае трэба вывучыць. Я думаю, што і самому Канстытуцыйнаму суду ёсць над чым паразважаць — нішто не нараджаецца адразу бездакорным. Таму, магчыма, і трэба падумаць над удасканаленнем гэтага інстытута, могуць быць і іншыя ініцыятывы ў гэтым плане... Але гаварыць аб тым, што гэта з'яўляецца раз і назаўсёды Богам дадзеным, адзіным і найлепшым рашэннем, я не стаў бы. Няма нічога вечнага і выключна дасканалага. Рашэнні, якія прымаюцца КС — вельмі складаныя, няпростыя, а таму трэба, каб яны мелі больш абгрунтаваную падрыхтоўку.

**— Апошняе пытанне, якое я вам не магу не задаць, датычыць вашай папярэдняй работы. Мы абралі Вярхоўны Савет, аднак засталіся несфарміраванымі многія гарадскія Саветы. Якое тут выйсце, на ваш погляд?**

— Дарэчы, Прэзідэнт унёс прапанову прыняць змены ў заканадаўства, якія б дазволілі лічыць правамоцнымі Саветы пры наяўнасці больш як 50 працэнтаў дэпутатаў...

**— Але і гэта не вырашыць усю праблему...**

— Так, застанецца яшчэ некалькі неабраных мясцовых Саветаў. Юрыдычныя паўнамоцтвы назначаць новыя выбары ў гэтыя Саветы адносяцца да кампетэнцыі тэрытарыяльных выбарчых камісій... Зразумела, што вясною гэтыя выбары правесці ўжо немагчыма... З другога боку, вы ж бачыце, што ўжо чатыры разы людзі мелі магчымасць удзельнічаць у выбарах. Можа быць, Вярхоўнаму Савету трэба вырашыць шэраг юрыдычных пытанняў з сістэмай выбараў, у тым ліку ці зрабіць іх свабоднымі, ці абавязковымі... Гэтая сітуацыя патрабуе сур'ёзнага асэнсавання, магчыма на канстытуцыйным узроўні.

**— Аляксандр Міхайлавіч, што для вас выключна непрымальна ў галіне палітыкі?**

— Не магу мірыцца з распаўсюджаным тэзісам аб тым, што палітыка — справа брудная. Такой яна становіцца ў спалучэнні з паводзінамі адпаведных людзей. Непрымальны для мяне цынізм, жаданне ісці, кажучы па-руску, «по трупам», якое, на жаль, відавочна ў паводзінах некаторых, не будзем называць іх, асоб. Трэба заўсёды, як гэта не банальна гучыць, заставацца Чалавекам.

**— Дзякуй за размову!**

— Поспеху вам і калектыву рэдакцыі газеты «Звязда».

**Гутарыў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

КАРЭСПАНДЭНТ ВЫЕХАЎ НА МЕСЦА

# «НАВУЧЫЦЕ МЯНЕ ДАІЦЬ НАГАМІ...»

**Не здзіўляйцеся такому загалоўку: з-за недарэчнага выпадку, якому спачатку ніхто не прыдаў значэння, даярка стала калекай. Але і на інваліднасць яе таксама не афармлялі. Чаму?**

Апошнія словы гэтага пісьма інакш як крыкам душы не назавеш: «Мне ніхто не хоча дапамагчы. Спадзяюся толькі на вашу падтрымку, якая мне вельмі патрэбна. Буду лічыць кожны дзень...»

Зразумела, пасля такога нецярплівага покліч нельга было заставацца абыякавым да чужога лёсу. У той жа час атрымлівалася неяк дзіўна і нават наіўна: аўтарка допісу меркавала, што вось прыедзе карэспандэнт, разбярэцца і ўсё адразу вернецца на сваё звыклае месца. Ах, як было б цудоўна, каб менавіта так яно і здарылася! На жаль, як сведчыў ліст і высветлілася па прыездзе, сітуацыя тут даволі неардынарная, складаная, і многае ў ёй паправіць, вярнуць на ранейшае месца ўжо проста немагчыма. Адно, скажу шчыра, добра ўсвядоміў: узяцца за пяро, упершыню звярнуцца ў рэдакцыю гэту жанчыну прымусіла бяда, якая неспадзявана напаткала яе, моцна прыціснула, навалілася ўсім сваім цяжарам.

Што ж усё-такі здарылася?

«Мы, — як напісала Ніна Рыгораўна Юхніцкая (па яе просьбе прозвішча зменена), — чарнобыльцы з Мазырскага раёна. Па свабоднаму выезду перабраліся ў п. Сосны, на Любаншчыну. Пасля таго, што там перажылі, тут, здавалася, усё пойдзе па-новаму, добра».

Сапраўды, дырэктар эксперыментальнай базы Іван Іванавіч Іокша выдзеліў перасяленцам на цэнтральнай сядзібе новую кватэру. Не засталіся яны і без работы: Аляксандр Іванавіч стаў працаваць трактарыстам, Ніна Рыгораўна — даяркай. Што яшчэ больш трэба на новым месцы? Абжывайся, старайся і гадуй дваіх дзетак-школьнікаў. Так навасельцы і рабілі.

Але праўду кажуць: каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломкі падаслаў бы. Так вось і ў гэтай неардынарнай гісторыі. У той майскі дзень 1994 года Ніна Рыгораўна прыйшла на ферму і нават думкі не было, што з ёй можа здарыцца няшчасце, вынікі якога будуць такія сумныя і драматычныя. Пры падключэнні даільнага апарата карова (магчыма, закапрызнічала ці нешта ёй не спадабалася) так урэзала задняй нагой у локаць даяркі, што правую руку працяў страшэнны боль. Як ад электрычнага току, жанчына падхапілася з-пад рагулі, хацела ўзмахнуць рукой і не змагла — тая быццам здранцвела.

Неяк пераадольваючы боль, закончыла дойку. Вярнулася дамоў і першае, што заўважыла: рука ад локця да пляча моцна апухла. Але супакоіла сябе тым, што, напэўна, няма нічога страшнага, усё абыдзецца-пройдзе. А будні даяркі вядома якія: позна ўвечары вернецца з работы, заўтра ж раніцай — зноў на ферму. У бясконцых клопатах, магчыма, не зважала, ці так падалося, што рука перастала балець. Аднак літаральна праз некалькі дзён пухліна папаўзла ад локця да пальцаў, і яны спачатку страцілі сваю сілу, а затым наогул не сталі слухацца — адным словам, рука не дзейнічала.

Толькі тады Ніна Рыгораўна звярнулася ў мясцовую бальніцу. (Як яна цяпер тлумачыць, шкадавала сваіх чорна-белых каровак, баялася, што без яе прападзе група.) Накіравалі даярку ў райбальніцу, дзе неўрапатолаг М. Пракапенка выпісала лячэнне па месцы жыхарства. Нічога не дапамагло, і жанчына зноў паехала ў Любань. На гэты раз далі накіраванне ў Мінск. А адтуль, пасля кансультацыі і абследавання, вярнулі на лячэнне ў райцэнтр.

Усе гэтыя працэдуры працягваліся да канца жніўня і закончыліся тым, што пасля другога курса лячэння хворай выдалі даведку для прадастаўлення на цэлы год лёгкай працы. Але дырэкцыя гаспадаркі на лягчэйшую работу даярку не перавяла, а яна на гэтым і сама асабліва не настойвала. І жанчына зноў вярнулася на ферму, па-ранейшаму даіла кароў. Толькі цяпер усю нагрузку ўзваліла на левую руку, і яна ад моцнага перанапружання не тое што стамілася, а таксама амаль анямела, перастала дзейнічаць. І Ніне Рыгораўне нічога не заставалася, як другі раз легчы на бальнічны ложак.

Выснова, якую зрабілі медыкі пасля лячэння, была несуцяшальная: трэба афармляцца на групу па інваліднасці. А для гэтага неабходны акт аб вытворчай траўме: тады, маўляў, і пенсія будзе большая. І пайшла даярка да старшыні (цяпер ужо былога) прафкома Ю. Гладуна, а ён заявіў, што ніякага акта заднім чыслом даць не можа.

— Калі б такі дакумент нават і быў выпісаны, то ён ніякай юрыдычнай сілы не меў бы, — растлумачыў мне пры сустрэчы юрыст эксперыментальнай базы Яўген Міхайлавіч Барысевіч. — Такі акт у чатырох экземплярах спецыяльна створаная камісія, як правіла, пасля расследавання складае на працягу сутак пасля таго, як адбылася траўма. Толькі ў такім выпадку можна прад'явіць прэтэнзіі да гаспадаркі і патрабаваць з яе за гэта даплату. Але, падкрэсліваю, калі б яна звярнулася тады адразу пасля здарэння.

— Да акта звычайна абавязкова прыкладаецца бальнічны, у якім указваецца характар траўмы, — уступіла ў размову інжынер па тэхніцы бяспекі Надзея Коўтун. — Такога бюлетэня няма, бо ў той дзень яна (г. зн. Юхніцкая. — І.Б.) у бальніцу не звярталася і гэты факт нідзе не зарэгістраваны. Лісток аб непрацаздольнасці (з яе слоў) выпісаны толькі ў канцы ліпеня, і ў ім указаны наступны дыягназ: посттраўматычная нейрапатыя. Але гэта захворванне, а не вытворчая траўма...

Праўда, ад такога вызначэння Ніне Рыгораўне не лягчэй. Мяркую, яна зараз і сама вінаваціць сябе, што ў той злашчасны дзень не звярнулася да ўрача. Але, як указваецца ў тлумачальнай, напісанай зусім нядаўна (22.01.96 г.), яна тады вечарам сказала аб здарэнні брыгадзіру фермы Г. Шаран. Галіна Міхайлаўна ў такім жа тлумачэнні адмаўляецца: аб гэтым даярка нічога ёй не гаварыла. А хутчэй за ўсё, думаецца, не звярнула на паведамленне ўвагі, палічыла яго дробязным.

І былы старшыня прафкома Ю. Гладун, які адначасова працаваў інжынерам па тэхніцы бяспекі, таксама не лепшым чынам аднёсся да няшчаснага выпадку з даяркай. Ён не паклапаціўся, каб дырэкцыя гаспадаркі прадаставіла ёй лёгкую работу, а закінуў некуды даведку, так што і след яе знік. Прафсаюзны лідэр па-бюракратычнаму абышоўся з гаротнай жанчынай і тады, калі яна папрасіла напісаць акт аб вытворчай траўме. Замест таго, каб талкова, па-чалавечы ўсё растлумачыць, даць слушную параду, паводле слоў Ніны Рыгораўны, выгнаў яе са службовага кабінета. А хіба нельга было адной з лепшых даярак, якая апынулася ў цяжкім становішчы, выдзеліць пуцёўку ў санаторый? Не, не выдзелілі, не адправілі на лячэнне.

Нельга сказаць, што пра бяду Юхніцкай у гаспадарцы зусім забыліся. Як зазначыў галоўны заатэхнік Сямён Васільевіч Драбуцька, ёй выдзелілі 350 тысяч рублёў матэрыяльнай дапамогі, бясплатную пуцёўку ў санаторый, якую абяцалі выдаць у першым квартале. Галоўны ветурач Галіна Сцяпанаўна Сулім дапоўніла, што па яе прапанове мужа даяркі з механізатараў перавялі ў санітары, каб ён мог дапамагаць жонцы. Усё гэта, вядома, добра, хоць і зроблена вельмі запозна.

Але разам з тым у час нашай размовы ў пакоі заатэхніі некаторыя спецыялісты пачалі папракаць і нават вінаваціць даярку. За што? У прыватнасці, за тое, што яна напісала ў «Звязду», чым яна, маўляў, можа даказаць, што гэта вытворчая, а не бытавая траўма і г. д.

А я глядзеў на гэту сціплую, ціхмяную і шчупленькую жанчынку, прыбітую горам, і са шкадаваннем думаў: якія могуць быць тут абвінавачанні? Не віна, а бяда яе ў тым, што з ёй здарылася. Гэты чалавек з ліку тых людзей, якія ўмеюць і любяць працаваць, але не ўмеюць і не могуць за сябе пастаяць, калі ў гэтым нават узнікла вострая неабходнасць. Ніна Рыгораўна сем гадоў працавала свінаркай на Мазыршчыне, шэсць гадоў добрасумленна завіхалася ля каровак у «Любанскай». Ведала і старанна выконвала сваю справу, нічога ні ад каго не патрабуючы.

— Калі б у мяне другая рука не балела, я неяк мучылася б, — дрыготкім голасам гаварыла мая субяседніца. — Мне здаецца, я нагамі б даіла, каб змагла, каб хто навучыў...

Слухаў гэту вымушаную споведзь і добра ўсведамляў: жанчыне вельмі цяжка развітвацца з фермай, хочацца тут працаваць. Нават за мізэрную зарплату ў 140—160 тысяч рублёў у месяц, якія таксама грошы для яе сям'і.

Усё яно так. Але як напісала Ніна Рыгораўна ў сваім лісце, «да болю крыўдна ў 33 гады застацца інвалідам». Яшчэ больш прыкра тое, што на працягу амаль двух гадоў ніхто сур'ёзна не ўнікнуў у гэту справу і не дапамог хворай афарміць дакументы на групу інваліднасці.

У той жа дзень з галоўным заатэхнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксандрам Мамчыцам мы пабывалі ў раённай бальніцы. Пасля таго, як выклалі ўсю сітуацыю галоўнаму ўрачу Іосіфу Канановічу і яго намесніку па рэабілітацыі часовай непрацаздольнасці па агульных захворваннях Уладзіміру Беразуку яны ўважліва перагледзелі гісторыю хваробы і запэўнілі: маўляў, раз такая справа, выклічам на медкамісію і няхай паглядзяць спецыялісты. Не разбяруцца яны, тады адправяць на кансультатыўную МРЭК, а там ужо, калі ёсць прыметы інваліднасці, і вызначаць адпаведную групу.

Што і казаць, сумная гісторыя. Яна сведчыць аб тым, што даяркі, свінаркі, іншыя жывёлаводы — гэтыя нястомныя працаўнікі з-за пастаяннай цяжкай, часам непасільнай работы на працягу многіх гадоў, дрэнных яе ўмоў нярэдка застаюцца, як кажуць, без рук і без ног, а потым ад прафесіянальных хвароб пакутуюць усё жыццё. Усё пераважна адбываецца з-за таго, што гэтыя людзі ў бясконцых напружаных буднях проста забываюць пра сябе, а кіраўнікі, спецыялісты гаспадарак вельмі слаба пра іх клапоцяцца, не прыходзяць своечасова на дапамогу, калі яны трапляюць у бяду. Выпадак у «Любанскай» — таму характэрнае пацвярджэнне.

**Іван БРАЛКА, спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

*Любанскі раён.*

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# СВЕТЛАЯ БУДУЧЫНЯ ПАКУЛЬ НЕ СВЕЦІЦЬ

**Мінуў год, як на Баранавіцкае баваўнянае аб'яднанне прыйшоў новы генеральны дырэктар С. Руцкі. Прадпрыемства знаходзілася тады ў цяжкім стане. Не было грошай, не было сыравіны. Наведаў тэкстыльны камбінат і Прэзідэнт Беларусі. Паабяцаў дапамагчы фінансава.**

І вось, выступаючы перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета, віцэ-прэм'ер С. Лінг заявіў, што кіраўніцтва тэкстыльнага камбіната нерацыянальна выкарыстала фінансавую дапамогу дзяржавы.

Сапраўды, тэкстыльны камбінат атрымаў 90 млрд. крэдыту. Крэдыты кароткатэрміновыя і пад высокі працэнт. Каб выплаціць працэнты, камбінату прыйшлося аддаць 40 млрд. Усё, што зарабілі, пайшло на выплату працэнтаў. Сёлета рублёвы крэдыт выдаецца пад 6 працэнтаў у месяц. Але на дадзеным этапе гэта наўрад ці істотна зменіць сітуацыю да лепшага. Праблема неплацяжоў выйшла на першае месца. Фактычна ніхто нікому не плаціць. Камбінату за прадукцыю павінны 30 млрд., а ён у сваю чаргу таксама завінаваціўся за энергарэсурсы 38 млрд. рублёў.

Значная сума з гэтых мільярдаў прыпадае на ўтрыманне жылых дамоў, інтэрнатаў і г. д. Пры гэтым разлічваюцца з ЦЭЦ па тарыфу, які ў 4,8 раза вышэй, чым тарыф для жылля мясцовых Саветаў. Вось і паўстала пытанне аб продажы Палаца культуры, прафілакторыя, спартыўнай залы. Яшчэ год назад гаворка пра гэта не вялася. Спадзяваліся, што ўдасца неяк выкараскацца.

Ад стабільнай работы баваўнянага аб'яднання ў многім залежыць і сітуацыя ў лёгкай прамысловасці краіны. Трыкатажныя і швейныя прадпрыемствы цесна звязаны з аб'яднаннем.

Грошай свабодных няма, тыя крэдыты, якія выдзяляе дзяржава, ідуць на аплату трактарных рухавікоў, якія ў сваю чаргу ідуць ва Узбекістан у абмен на бавоўну. Ды і за крэдыты камбінат разлічваецца прадукцыяй. Ён пастаўляе пражу трыкатажным фабрыкам. Тыя сваю прадукцыю адпраўляюць у гандаль, які павінен трыкатажныя вырабы прадаць і грошы вярнуць канцэрну.

На першы погляд усё прадумана. Створаны стройны ланцужок. Людзі выпускаюць матары, працуе тэкстыльны камбінат, які ў сваю чаргу стымулюе работу трыкатажнікаў, а тыя напаўняюць паліцы магазінаў сваёй прадукцыяй. Аднак апошняе звяно, гандаль, рушыць усю быццам бы адладжаную сістэму. Але не па сваёй віне. Тавар ляжыць, яго ніхто не купляе. Няма ў людзей грошай, як няма іх і ў прадпрыемстваў. Такія нашы рынкавыя рэаліі. Калі год назад галоўным болем кіраўніцтва была праблема сыравіны, то цяпер — збыт прадукцыі. Яе накапілася на мільярды, ёю літаральна завалены склады. З-за высокіх цэн тканіна баранавіцкіх тэкстыльшчыкаў стала неканкурэнтаздольнай.

Калі раней можна было мець хоць нейкі прыбытак ад пастаяннага росту курса долара, то стабілізацыя рубля звяла гэты прыбытак да нуля.

Увядзенне фінансавага калідора для валюты ў прынцыпе — справа добрая. На дадзеным этапе ён стварае хоць нейкае поле для манеўру.

— Але, — паскардзіўся дырэктар, — бяда ў тым, што гэты калідор яшчэ не запрацаваў.

Безумоўна, справа не ў фінансавым калідоры. Патрэбны глыбінныя рэформы ў эканоміцы. Але правесці іх, вобразна кажучы, «ціхім крокам» не ўдасца. Скрытае беспрацоўе сёння даўно перавaліла за 30 працэнтаў. Людзі не працуюць, а ім плацяць грошы. З аднаго боку, быццам бы і гуманна, шкада чалавека, а з другога — правесці эканамічныя пераўтварэнні пры такім становішчы немагчыма.

Але перайсці эканамічны рубікон прыйдзецца, проста адцягваецца гэты дзень.

У бліжэйшыя гады камбінат будзе загружаны напалову сваіх магутнасцей. З 7600 працуючых, па разліках кіраўніцтва прадпрыемства, пакінуць неабходна 4000 чалавек. Найлепшым выйсцем для прадпрыемства было б звальненне лішніх работнікаў, і хай бы яны атрымлівалі грошы па беспрацоўю. Але, як я зразумеў, кіраўніцтва не можа пайсці на гэта па дзвюх прычынах. Над начальствам лунае «ўстаноўка» наконт недапушчальнасці скарачэння, а па-другое, камбінат фінансава не можа выплаціць звальняемым зарплату за тры месяцы наперад у адпаведнасці з законам.

У гэтым годзе па клірынгу Узбекістан паставіць на камбінат 12 тысяч тон бавоўны — менш як палову ад патрэбнага. Але хто будзе плаціць «Белкантракту», які ў сваю чаргу аплачвае рухавікі, насенне бульбы і г. д. перад тым, як іх адправіць узбекам? «Жывых» грошай пакуль што няма.

Я хацеў усё ж даведацца ў кіраўніцтва, як яно думае вывесці камбінат з эканамічнага тупіка, але не атрымаў яснага адказу. Таму і зрабіў выснову, што, відавочна, пабудаваць «светлую будучыню» на асобна ўзятым прадпрыемстве немагчыма.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

